


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 13 (256) ВЕРАСЕНЬ 2018 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

*О маладосць! Як бы мы жылі, калі б тое, што спазнаём спасля, спазналі раней!..*

*Барыс Сачанка*

КАНФЛІКТНАЯ СІТУАЦЫЯ

## ХЛЯВЫ НЕ ЎПІСАЛІСЯ Ў ПЕЙЗАЖ

**У Гарадку разгараецца канфлікт вакол ... хлявоў. Больш за 20 гадоў таму гараджане выкупілі ў мясцовай птушкафабрыкі 47 гаспадарчых пабудоў на ўскраіне. Цяпер яны сталі яблыкам разладу. Непадалёк рэканструявалі гасцініцу для спартсменаў. У апошні час усё часцей тут бачаць замежных гасцей.**

Бываюць нават сапраўдныя зоркі — алімпійская чэмпіёнка Юстына Кавальчык трэніравалася ў Гарадку гэтым летам. Многіх прыцягвае пабудаваная ў мясцовых Вараб'ёвых гарах лыжаролерная траса. Мясцовыя ўлады настойваюць: надышоў час прыбраць старыя хлявы з вачэй далоў. Пейзаж і праўда непрывабны. Ды і дакументаў на пабудовы няма. Хоць уладальнікі з гэтым катэгарычна нязгодныя. Запэўніваюць — і ўзводзілі адрыны законна, і выкуплялі не за фанцікі.

У адрынах, якія абяцаюць знесці, мясцовыя жыхары шмат гадоў трымаюць птушку і нават парсючкоў.

... На сустрэчу з журналістам «СБ» сабралася чалавек дваццаць. Людзі засмучаныя. Гадамі яны трымалі тут дробнае быдла, захоўвалі гародніну, інвентар і нікому не заміналі. Цяпер у разгубленасці: куды падзецца курэй, коз і свіней? Гістарычны экскурс робіць пенсіянер Міхаіл Расолька, у мінулым кіраўнік Гарадоцкай птушкафабрыкі:

— Гадоў 25 таму працаўнікі звярнуліся да мяне з просьбай пабудаваць непадалёк ад іх дамоў па вуліцы Гагарына адрыны. Зрабілі ўсё па правілах, замовілі праектна-каштарысную дакументацыю і згодна з ёй ўзвялі амаль паўсотні гаспадарчых пабудоў з сілікатных блокаў. Пазней іх прадалі жадаючым, у многіх нават захаваліся квітанцыі. Зараз усе прапануюць адправіць пад бульдозер ...

Аляксандр Марэнаў, які сярод уладальнікаў хлявоў за старэйшага, толькі паціскае плячыма. Лічыць: іх справа — труба і хоць бы адцягнуць непазбежнае да вясны. Да гэтага часу як раз атрымаецца падгадаваць жыўнасць, якую трымаюць многія. Ня на балконе ж парасяці трымаць, нявесела жартуе Аляксандр Рамановіч:

— Згодзен, наша «гаспадарка» — адметная, і з дарогі выгляд так сабе. Але раней яе закрывала сцяна дрэў. Некалькі гадоў таму да раённых «Дажынак» іх ссеклі, правялі меліярацыю. Цяпер адрыны як бяльмо на воку. Нас паставілі перад фактам — да 1 кастрычніка разабраць пабудовы, прыбраць платы і парнікі. Як гэта зрабіць уласнымі сіламі, улічваючы, што большасць з нас — пенсіянеры, не ўяўляю. А штраф плаціць таксама нікому не хочацца.

Уладальнікі хлявоў наперабой запэўніваюць і нават настойваюць — гатовыя аформіць усё па законе. З дакументамі на зямлю і тэхпашпартам на руках можна задумацца і аб высокім плоце. Узаконіць збудаванні ў БТІ можна было і 15, і 10 гадоў таму, але чамусьці да гэтага часу ніхто на гэта не пайшоў, не без рацыі кажа Зміцер Аксючыц. Як начальнік аддзела землеўпарадкавання райвыканкама, вядома, ён у курсе праблемы. Больш за тое, з мая правёў некалькі сходаў з жыхарамі. Нават прапаноўваў ім стварыць гаражны кааператыў, каб хоць такім чынам ўзаконіць пабудовы, спаганяць падаткі. Яшчэ ў 90-х да хлявоў падвялі электрычнасць, ваду. Многія ўладальнікі за гады карыстання прыбудавалі да капітальных сцен міні-адрынкі. Некаторыя абгарадзілі ўчасткі платамі і ўзвялі ў іх межах уласныя адрыны з бярвеністымі або дашчанымі сценамі. Ёсць людзі, якія пабудавалі на гэтай зямлі лазні, высадзілі шматгадовыя пладовыя насаджэнні. Санітарны стан тэрыторыі вакол самастроя з кожным годам пагаршаецца, кажуць у райвыканкаме.

Варыянт з кааператывам здаецца найменшай з праблемаў, лічыць Дзмітрый Віктаравіч:

— Зноў жа, калі кіраўніцтва раёна пойдзе людзям насустрач. Падтрымаць сваіх былых работнікаў, ветэранаў працы рублём і справай магла б і птушкафабрыка. Узвядзенне плота — нятанны, але важкі жэст. І пытанне вырашылася б па-чалавечы.

Гэта не першая і, падобна, не апошняя «сарайныя» спрэчка. Напрыклад, летам у вёсцы Каралёва пад Мінскам людзі абаранялі свае пабудовы, названыя самавольнымі. З падобнай праблемай можа сутыкнуцца кожны, хто валодае чымсьці дэ-факта, але не на паперы. Выснова напрошваецца сам сабой: маючы нешта, карыстайцеся з задавальненнем, але не забывайце аформіць хлеў, гараж, лазню законна. Інакш збан аднойчы перастане насіць ваду і рана ці позна паўстане справядлівае патрабаванне — знесці.

**Ганна Навумава**
***"Беларусь сёння"***
*Пераклад з расейскай*

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

АЎКЦЫЁН

## ПОТЕРЯЛИ БОЛЕЕ ПОЛУМИЛЛИОНА ДОЛЛАРОВ

**Россияне выкупили бывшую почтовую станцию XIX века под Городком за 16 тысяч долларов, а ремонт ее стоил 565 тысяч долларов.**

Инвестор из России купил на аукционе здания бывшей почтовой станции XIX века в деревне Кузьмино Городокского района. Историко-культурный памятник на трассе М8 рядом с российской границей обошелся ему в 33,8 тысячи рублей, сообщает «Витебскоблимущество».

В лот входили три здания 1848 года постройки площадью 307 кв. м: бывшие станционный дом, флигель для ямщиков и каретная.

Объект выставили на торги с начальной ценой 5 базовых величин (122 рубля). На лот претендовали 4 покупателя. На 49-м шаге аукциона старинные здания продали за 33,8 тысячи рублей обществу с ограниченной ответственностью из Москвы.

В 2010 году предприятие «Витебскавтодор» реконструировало старинные здания. Станционный дом превратился в кафе с банкетным залом на 16 мест и мини-баром. Из флигеля сделали мотель на 5 мест с одно- и двухместными номерами. В каретной размещались гараж и склад. В ходе реконструкции рядом оборудовали две стоянки.

Проект по созданию объекта придорожного сервиса на трассе М8 рядом с российской границей до деноминации обошелся в 1,7 млрд рублей (более чем в 565 тысяч долларов), однако эксплуатировать кафе и мотель у «Витебскавтодора» не получилось

С начала 2017 года недвижимость числилась неиспользуемой. В итоге облисполком решил продать комплекс зданий в Кузьмино с аукциона. Первую попытку сделали в январе 2018-го, но безуспешно.

**tut.by**

ЭКАЛОГІЯ

## МЕНШ ДЗЕЙНАСЦІ І БОЛЬШ ЛЯСОЎ

**У Гарадоцкім раёне менш сталі забруджваць атмасфернае паветра і менш дабываць вады, а лясоў стала больш.**

Нацыянальны статыстычны камітэт выдаў зборнік «Ахова навакольнага асяроддзя » за 2017 год, у якім прыводзіць разнастайныя лічбы па ахове прыроды ў краіне. Гэтыя лічбы датычацца не толькі абласцей і сталіцы, а таксама гарадоў і раёнаў краіны.

Прыведзеныя лічбы ўтрымліваюць штогадавую інфармацыю з 2011 года па 2017. Першая серыя табліц, якія ахопліваюць раёны Беларусі датычацца выкідаў шкодных рэчываў у атмасфернае паветра. Па Гарадоцкаму раёну найменшае забраджванне паветра фіксавалася ў 2011 годзе – 900 тон, а найбольшае ў 2015-2016 г. – 1 800 тон, а ў мінулым годзе стала 1 100 тон – больш чым на трэць менш ад папярэдняга года. Па Віцебскай вобласці гэтых выкідаў шкодных рэчываў у мінулым годзе было зафіксавана 102 000 тон, а найбольшая колькасць гэтых рэчываў прыйшлася на Полацкі раён, дзе працуюць аб'екты нафтахіміі ў г. Наваполацку – 55 200 тон . Гэта найвялікшы паказчык па забруджванню сярод усіх гарадоў і раёнаў краіны і больш, чым у асобных абласцях наогул.

Пры гэтым па Гарадоцкаму раёну ў тры разы зменшыліся паказчыкі па вылаўленню шкодных рэчываў і іх абяскоджванню. Калі ў 2011 годзе было вылаўлена 300 тон шкодных рэчываў – кожная трэцяя тона, то ў 2017 толькі 100 тон – кожная 11-я тона шкодных рэчываў.

Важнай характарыстыкай экалагічнага стану з'яўлецца інфармацыя аб дабычы і выкарыстанні вады. За перыяд з 2011 па 2017 гады на Гарадоччыне здабыча вады зменшылася з 2,2 млн. куб.м да 2,0 млн. куб. м.. Таксама адбылося і зmяншэнне яе выкарыстання з 2,2 млн. куб. м да 1,8 млн. куб.м.

Цікавай інфармацыяй аб экалогіі рэгіёна з'яўляецца інфармацыя аб яго лясістасці. Пагэтаму паказчыку тэрыторыя Гарадоцкага раёна з'яўляецца адной з самых лясістых у краіне. Лясістасць Гарадоччыны з 2011 года павялічылася па даных Нацстаткамітэта, нягледзячы на актыўную дзейнасць "ААТ "Віцебскдрэва" ў мінулыя гады, з 52,7%; да 55,0%. Гэта трэцці паказчык на Віцебшчыне пасля Расонскага і Полацкага раёнаў.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

СПОРТ

# СТАРТАВАЛА АДКРЫТАЕ ПЕРШАНСТВО БЕЛАРУСІ

**13 верасня на лыжаролернай трасе ў Вараб'ёвых гарах стартавала адкрытае першанства ДЮСШ Рэспублікі Беларусь сярод юных лыжнікаў па летняму трохбор'ю, якое фінішуе толькі ў нядзелю 16 верасня.**

На працягу трох дзён на лыжаролернай трасе юныя спартсмены будуць выяўляць мацнейшых спартсменаў у двух узроставых групах сярод юнакоў і дзяўчат: 2001-2002 і 2003-2004 г.г.. Штодзенныя старты пачынаюцца ў 10.30. Спаборнічаюць юныя спартсмены з Мінска, Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай абласцей. Таксама ў першанстве краіны ўдзельнічае і каманда ДЮСШ г. Гарадка.

Сёння юныя лыжнікі спаборнічалі ў гонках на лыжаролерах класічным ходам. Для стварэння аднолькавых умоў у бегу на лыжаролерах Федэрацыя лыжнага спорту набыла лыжаролеры адной фірмы на якіх бягуць усе ўдзельнікі спаборніцтваў.

Першымі стартавалі дзяўчаты старэйшай узроставай групы 2001-2002 года на дыстанцыі 5 км. У старце прынялі ўдзел прадстаўнікі Гарадоцкай ДЮСШ, якіх трэніруюць заслужаны трэнер Беларусі А.У. Кухарэнка і А.А. Трафімаў: Маша Барабаш, Лена Пучкова і Ліза Журава. Лепшы вынік паказала Журава Ліза – 6 месца.

Таксама адбыліся старты сярод старэйшых юнакоў на 7,5 км і малодшых юнакоў і дзяўчат адпаведна на 5 і 3 км. Сярод гэтых удзельнікаў лепшы вынік з Гарадка паказаў Дарожкін Захар, таксама 6 месца.

Усяго ў спаборніцтвах сёння удзельнічала каля 170 юных спартсменаў з 12 каманд, а таксма яшчэ 7 каманд стартавалі ў асабовым заліку. Па выніках першага дня каманда ДЮСШ г. Гарадка на 7 месцы, але розлічвае пазмагацца за пападанне ў пяцёрку мацнейшых у Беларусі.

Заўтра першанство сярод ДЮСШ працягнецца бегам на лыжаролеерах вольным стылем, у суботу будзе трэнеровачны дзень, а ў нядзелю з 10.30 адбудзецца крос з раздзельнага старта сярод чатырох груп спартсменаў. Урачыстае закрыццё запланавана на 13 гадзін.

**Ад рэдакцыі:** *па выніках трох дзён спаборніцтваў каманда Гарадоцкай ДЮСШ заняла 6 месца, саступіў 4 ачка камандзе з Клімавіч і 8 ачкоў камандзе з Магілёва, якая была чацвёртай. Нашы старэйшыя дзяўчынкі ва ўзроставай групе 2001-2002 г.г. занялі другое месца пасля сталічнай каманды СДЮШАР.*

**Л. Антонаў**
**http://haradoktour.by**

ПАЖАР

# ЗГАРЭЎ БЕЗГАСПАДАРЧЫ ДОМ

**Паводле інфармацыі проэс-службы Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС ў панядзелак вечарам у Гарадоцкім раёне адбыўся пажар прыватнага дома.**

10 верасня ў 18-41 ў Гарадоцкі аддзел МНС паступіла паведамленне аб пажары дома ў в. Селішча Даўгапольскага сельсавета.

У выніку пажару ў доме памерамі 4×6 м знішчаныя дах, столевае перакрыцце, пашкоджаныя сцены і маёмасць. Уласнік дома устанаўліваецца.

Прычына пажару высвятляецца.

**Т. Гаражанка**

ДЗЕНЬ ВЕДАЎ

# ДЕНЬ ЗНАНИЙ С МИНИСТРОМ

**Министр по ЧС Владимир Александрович Ващенко принял участие в торжественной линейке Бычихинской средней школы Городокского района.**

По традиции в этот день руководители министерств и ведомств посещают учебные заведения и поздравляют детей и преподавателей с этим светлым праздником. Глава ведомства МЧС принял участие в торжественной линейке Бычихинской средней школы Городокского района. Более 40 лет назад Владимир Александрович закончил школу, но по сей день ежегодно он навещает родные места, вспоминая тот час, когда впервые переступил порог школы, где его научили любить Родину, быть достойным человеком своей страны.

Владимир Александрович поздравил учащихся, родителей и педагогов с праздником: "В нашей стране созданы все условия, чтобы получить достойное образование. Идите по жизни с оптимизмом, занимайтесь спортом, стремитесь и достигайте высот. Только от вас зависит, как вы будете получать знания, которые вам дает жизнь, преподаватели, школа, родители. Закладывайте тот фундамент, который вам пригодится в жизни".

На торжественной линейке Министр МЧС совместно с председателем районного Совета депутатов Зуевой Светланой Леонидовной по традиции подарили первоклассникам книги «Беларусь — наша Радзіма» от имени Президента Республики Беларусь Александра Григорьевича Лукашенко.

Не остались без внимания руководителя ведомства и будущие выпускники. После завершения торжественной части Владимир Александрович заглянул в выпускной класс, где провел первый урок — урок жизни, сказал напутственные слова и пожелал успехов в завершении школы, и верного выбора будущей профессии. А ребята, в свою очередь, задали вопросы Министру по ЧС, — каким он был учеником, чем увлекался и как выбрал свою будущую профессию.

Продолжилось мероприятие уроком безопасности для первоклассников с участием представителей журнала «Юный Спасатель», где каждый получил подарок из рук Министра по ЧС. В завершении для присутствующих был организован концерт художественной самодеятельности от работников Витебского областного УМЧС.

**Пресс-служба Витебского управления МЧС**

ВІЗІТ

# ВИЗИТ ГЕНПРОКУРОРА И ПРЕДСЕДАТЕЛЯ ФПБ

**Про развитие предприятий, защиту прав на труд, создание новых рабочих мест говорили в ПМК-51 Генпрокурор и председатель ФПБ.**

Проблемы регионов, развитие предприятий, защита прав трудящихся, создание новых рабочих мест и многие другие вопросы обсуждались во время совместной рабочей поездки в Городок председателя Федерации профсоюзов Беларуси Михаила Орды и Генерального прокурора Республики Беларусь Александра Конюка. Встреча прошла в рамках подписанного почти год назад между ФПБ и Генпрокуратурой соглашения о взаимодействии в сфере защиты прав и гарантий трудящихся. В обсуждении участвовали председатели областного Совета депутатов Владимир Терентьев и Городокского райисполкома Петр Коробач.

**Болевые точки ПМК-51**

Центральным пунктом встречи профсоюзного лидера и генпрокурора в Городке стало посещение местной ПМК-51. И это неспроста. Еще в прошлом году положение строительной организации было незавидным. Из-за недозагрузки мощностей и долгов коллектив сократился с нескольких сотен до 70-80 человек, средняя зарплата не превышала 250 рублей, часть оборудования и техники была арестована судебными исполнителями. Маячила перспектива банкротства. Но благодаря волевому решению властей, новым договорам на подрядные работы предприятие удалось спасти, и сегодня оно демонстрирует стабильный экономический рост, а главное — возвращаются строители (коллектив вырос до 110 человек), повышается средняя зарплата — сегодня это более 500 рублей.

— Главная проблема строительной отрасли — недостаток заказов на подрядные, субподрядные работы, — рассказал Михаил Орда. — Городокская ПМК — не исключение. Но ведь это предприятие, которое имеет хорошую строительную базу, специалистов. И то, что его передали в коммунальную собственность, помогли обеспечить фронт работ, — хороший пример того, как не надо рубить сплеча. Теперь следует думать о реструктуризации долгов, размораживании счетов предприятия, снятии ареста с техники. Без этого ПМК связана по рукам и ногам.

— На примере Городокской ПМК мы увидели проблемы системного характера, — отметил Александр Конюк. — Местные власти приняли правильное решение, сохранив эту строительную организацию. Но есть проблемы с налоговой инспекцией, судебными исполнителями. Наша задача — помочь убрать эти порой искусственные барьеры для развития данного и подобных ему предприятий в регионах.

На стройплощадке жилого дома, который в качестве одного из субподрядчиков возводят работники Городокской ПМК-51, Михаил Орда отметил, что тендеры на строительные работы порой выигрывают фирмы-посредники, у которых даже нет строительной техники, а субподрядчики, которым они потом передают всю работу, не получают средства в должных объемах.

— Это то, что требует первоочередного внимания, — подчеркнул Владимир Терентьев. — Сейчас ПМК имеет объем работы, который дает возможность развиваться. В скором будущем планируется строительство еще одного дома.

Участвовавшие в разговоре строители посетовали на стоимость квадратного метра жилья, которая в небольших городах почти такая же, как в областном центре, а зарплаты — ниже. Поэтому и желающих строиться, даже за льготные кредиты, немного, отсюда и сложности у некрупных стройорганизаций.

**За помощью к право-ведам**

Не менее предметным и содержательным был проведенный в Городке совместный прием граждан, на котором поднимались вопросы от правомерности того или иного наказания для проштрафившегося работника до конфликтных ситуаций по контрактам с людьми предпенсионного возраста.

На личном приеме люди обращались с конкретными проблемами, — прокомментировал Александр Конюк. — По некоторым из них придется проводить дополнительные проверки. Что касается ситуации с трудовыми отношениями в предпенсионном возрасте, то внесем предложение Администрации Президента об уточнениях в соответствующих правовых актах.

По словам Михаила Орды, совместная работа профсоюзной организации и Генпрокуратуры приносит плоды. Только за первое полугодие юристами федерации совместно с прокурорами было проведено почти 400 правовых приемов, на которых особое внимание уделялось соблюдению нанимателями гарантий в области труда, своевременной выплате зарплаты, а также сумм, причитающихся работникам при увольнении. Благодаря вмешательству юристов рассмотрено 58 дел в судебных инстанциях, где требования работников были удовлетворены. При участии профсоюзов восстановлено на работе 39 человек, работникам возмещено более 2 млн невыплаченных или незаконно удержанных денежных средств.

— Совместно с прокурорскими работниками мы можем детально разобраться в каждой ситуации, — сказал Михаил Орда.

Большое внимание, проинформировал он, сейчас уделяется контрактной системе. Законодатели обсуждают поправки в Трудовой кодекс, и профсоюзы направили им немало предложений.

— Мы проанализировали 1,8 млн контрактов за 2017 год, треть из них заключены на один год, — отметил Михаил Сергеевич. — Причем краткосрочных контрактов становится больше, есть предприятия, где почти все контракты годовые. Люди не знают, будет ли у них работа, не уверены в своем будущем, это негативно сказывается на микроклимате в трудовых коллективах, в обществе в целом. Сегодня в этой сфере многие вопросы отданы на откуп нанимателю. В итоге принятие решений о продлении или непродлении контракта зависит только от него. Профсоюзы предлагают в Трудовом кодексе прописать четкие правила, чтобы каждый человек знал: если он работает добросовестно и без взысканий, то может рассчитывать на продление трудовых отношений.

**Александр Кутынко**
**http://vitvesti.by**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# УЛЬТЫМАТУМ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Расія будзе турбавацца, перш за ўсё, пра сябе. Саюзніку і стратэгічнаму партнёру давядзецца разлічваць на ўласныя сілы і не чакаць падтрымкі.**




Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін сустракаліся ў чэрвені — дзеля гэтага кіраўнік Расіі нават прапусціў матч сваёй зборнай з Егіптам на Чэмпіянаце свету па футболе. У ліпені Пуцін запрасіў беларускага калегу на сустрэчу. Той не ехаў амаль месяц, і ўрэшце выправіўся ў Сочы напрыканцы жніўня.

Варта звярнуць увагу на тое, што канкрэтнай інфармацыі па выніках гэтых рандэву — кату па пяту. Па выніках апошняй паездкі Лукашэнкі на пуцінскую яхту прэс-служба кіраўніка дзяржавы не рабіла ніякіх гучных заяў. Толькі праз тры дні Аляксандр Рыгоравіч даў маштабнае інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь-1».

Цалкам можа быць, што затрымка з інфармацыяй была адмысловым ходам: каб прыцягнуць да гэтага інтэрв'ю больш увагі. Але ж яно пакінула больш пытанняў, чым адказаў.

Многія заўважылі, што ці не ўпершыню Лукашэнка адказваў на пытанні журналістаў з паперкай — з гатовымі тэзісамі адказаў. Канешне, гэта звычайная практыка, калі кіраўніку такога ўзроўню спачатку дасылаюцца пісьмовыя пытанні, ён рыхтуе адказы і потым агучвае іх на камеру. Аднак гэта імкнуцца не афішаваць.

Апроч таго, ніякіх рэальных адказаў пра сустрэчу з Пуціным мы не атрымалі. Па сутнасці, інтэрв'ю выглядала апраўданнем беларускага кіраўніка за рэзкія словы, якія ён дазволіў сабе на адрас Расіі раней: «Без Расіі мы нікуды», «Мы — народы з аднаго кораня» і «Расія для Беларусі — анёл-абаронца». Але за салодкагалосай рытарыкай так і не было чуваць, што ж Лукашэнка і Пуцін абмяркоўвалі ў Сочы і чаму расійскі кіраўнік так доўга і ўпарта чакаў беларускага калегу.

Для таго, каб абмеркаваць кандыдатуру новага расійскага пасла? Гэта і аспрэчыў сам кіраўнік Беларусі, што было ці не адзіным сэнсоўным кавалкам яго размовы з тэлевізійшчыкамі.

Палітолагі і аналітыкі лічаць, што нешта на сустрэчы Лукашэнкі і Пуціна «не зраслося» і «не склеілася». Але, мяркуючы па настойлівасці і цярплівасці Уладзіміра Уладзіміравіча і па наступнаму інтэрв'ю Аляксандра Рыгоравіча, «зрастацца і клеіцца» там не было чаму.

Хутчэй за ўсё, кіраўнік Расіі агучыў «новую эканамічную палітыку» ў адносінах да Беларусі, якая палягае ў словах: «Вучыцеся выжываць самі». Санкцыі ЕС і ЗША моцна б'юць па расійскай эканоміцы. І, падаецца, яны ўжо перакрочылі тую мяжу, калі іх можна было «адкаціць назад». Раней іх прычынай была вайна ва Украіне, а зараз фінансавыя абмежаванні ўводзяцца з-за «справы Скрыпалёў» і расійскага ўплыву на выбары ў заходніх дэмакратыях.

Калі раней можна было вярнуць Крым Украіне і сказаць: «Выбачаемся», то атручаных замежных грамадзян з таго свету не вернеш.

Расіі патрэбныя грошы. Грошы на падтрымку ўладаў марыянетачных рэспублік ва Украіне, Расія загразла ў Сірыі — напрыклад, днямі з'явілася інфармацыя, што РФ накіроўвае дадатковыя сілы на базу ў Хмеймім (хаця яшчэ 11 снежня мінулага года Пуцін урачыста загадваў вывесці расійскія войскі з Сірыі). Плюс санкцыі — і грошай на падтрымку «сяброў» не застаецца. Больш за тое, завязаныя на расійскую эканоміку «сябры» непазбежна атрымаюць аддачу антырасійскіх санкцый па сваёй эканоміцы. Для Беларусі гэтая аддача можа быць вельмі і вельмі балючай.

Расія будзе турбавацца, перш за ўсё, пра сябе. Саюзніку і стратэгічнаму партнёру давядзецца разлічваць на ўласныя сілы і не чакаць падтрымкі (акрамя маральнай). «Падатковы манеўр» Расіі што да карысных выкапняў працягнецца, адзіная нафтагазавая прастора ў межах ЕАЭС — у аддаленай перспектыве, паліва для АЭС прыйдзецца набываць па нармальным кошце. Па ўнутрырасійскіх коштах нафту, газ і ўран могуць атрымаць толькі расійскія рэгіёны, так што калі хочаце — давайце да нас.

Думаю, што Пуцін выклаў усё гэта спакойным дзелавым тонам, абмаляваўшы сітуацыю, як яна ёсць. І ў якасці першага кроку падтрымкі прапанаваў прыняць пасла Бабіча з паўнамоцтвамі спецпрадстаўніка па эканамічных пытаннях. На што Лукашэнку заставалася толькі пагадзіцца.

Пагадзіцца — і думаць, што рабіць далей. Астатнія канкрэтныя пытанні, калі яны ўзніклі ў Пуціна, Аляксандр Рыгоравіч мог нівеляваць адным чынам: «Трэба параіцца з таварышамі, такія пытанні з кандачка не вырашаюцца». А «таварышы» яшчэ не ўвайшлі ў курс справы. Не выключаю, што нядаўнія маштабныя змены ва ўрадзе былі зробленыя Лукашэнкам не толькі «пасля Оршы», але і з перспектывай ухіліцца ад абмеркавання праблемных пытанняў у размове з расійскім кіраўніком.

Па выніках сочынскай размовы Лукашэнка сказаў, што наступная сустрэча з Пуціным пройдзе ў пашыраным складзе з кіраўнікамі ўрадаў. Меркавана, гэта адбудзецца ў Магілёве ў кастрычніку падчас V Форума рэгіёнаў Беларусі і Расіі.

Такім чынам, кіраўнік Беларусі ўзяў паўзу, каб асэнсаваць новыя рэаліі і паспрабаваць выпрацаваць адказ на новыя выклікі. Хаця месца для манеўра ў яго, падаецца, няшмат.

**Сяргей Пульша**
**"Новы Час"**

НАФТАВАЕ ПЫТАННЕ

# НЯ ДУМАЕ АДМАЎЛЯЦЦА АД ПАДАТКОВАГА МАНЭЎРУ

**Беларусь будзе плаціць за расейскую нафту, як і іншыя краіны... Кіраўнік падатковага дэпартамэнту Міністэрства фінанасаў Расеі Аляксей Сазанаў даў інтэрвію агенцтву Reuters, у якім сярод іншага расказаў пра падатковы манэўр у нафтавай галіне і абмежаваньні паставак нафтапрадуктаў у Беларусь.**

Адказваючы на пытаньне пра супрацу зь беларускімі партнэрамі, Аляксей Сазанаў прызнаўся, што гэта «складанае пытаньне».

«Мы ў працэсе абмеркаваньня: ці будзе кампэнсацыя, у якім аб'ёме і якія інструмэнты пры гэтым выкарыстоўваць. Але ў любым выпадку гэта павінен быць мэханізм, калі ўсе будуць бачыць, якую суму штогод мы накіроўваем зь бюджэту Расеі на падтрымку Беларусі. Калі мы падавалі падтрымку ў выглядзе дыфэрэнцыялу ў мытах, ніхто гэтага нават ня бачыў, гэта было схаванае субсыдаваньне беларускай эканомікі».

Паводле расейскага чыноўніка, цяпер, калі праводзіцца манэўр, усё «ўсплывае» на паверхню, больш такога схаванага субсыдаваньня ўжо ня будзе. І запэўнівае, што ніякіх міжнародных пагадненьняў Расея пры гэтым не парушыла.

«Раней гэта было „шэрае поле“, калі грошы губляў фэдэральны бюджэт Расеі, а атрымлівалі нафтаперапрацоўчыя заводы Беларусі. Цяпер адбываецца значнае „абяленьне“ узаемаадносінаў у гэтай частцы, і гэта вельмі добра. Калегі кажуць, што мы несправядліва прынялі „сувэрэннае рашэньне“. Аднак зьмена падатковага заканадаўства не рэгулюецца ў рамках пагадненьня аб Эўразійскім эканамічным саюзе. Гэта наша права вызначаць падатковы рэжым унутры краіны, і ў рамках гэтага права мы яго крыху падкарэктавалі».

Паводле Аляксея Сазанава, Расея на «братэрскіх стасунках» страчвала велізарныя сумы: пачынаючы ад сярэдзіны нулявых, гэта больш за трыльён расейскіх рублёў.

**Пра абмежаваньні паставак нафтапрадуктаў**

Беларусь мае прафіцыт па ўсіх нафтапрадуктах за кошт сваёй нафтаперапрацоўкі. Таму ёй выгадна закупляць расейскія нафтапрадукты — больш танныя з улікам таго, што ў Расеі сацыяльна-адказныя нафтакампаніі і кошты ніжэйшыя, чым экспартная альтэрнатыва, патлумачыў кіраўнік падатковага дэпартамэнту Міністэрства фінанасаў Расеі Аляксей Сазанаў.

«Пастаўляючы нафтапрадукты ў Беларусь, расейскі бюджэт недаатрымлівае экспартнае мыта, бо гэтыя нафтапрадукты ідуць на задавальненьне патрэб беларускага рынку. Па сутнасьці, гэта зноў прыхаваная форма субсыдаваньня цяпер ужо ўнутранага рынку краіны. Калі скончыцца манэўр у нафтавай галіне, такога ўжо ня будзе. Пакуль мы ставім пытаньне пра абмежаваньне паставак. Баланс гэты вызначае Мінэнэрга».

Як заявіў чыноўнік, з улікам падатковага манэўру размова можа ісьці пра аб'ёмы паставак ад 100 да 300 тысяч тон за год, але ніяк не пра 2 мільёны, як ёсьць на гэты момант. Паводле Сазанава, летась Расея страціла на такіх пастаўках 10 мільярдаў расейскіх рублёў, а сёлета аналягічную суму толькі цягам паўгодзьдзя.

Як паведамляла Свабода, у ліпені Дзяржаўная Дума Расеі прыняла законапраект аб паступовым скасаваньні мыта на вываз нафты — так званы падатковы манэўр. Гэта азначае, што беларуская эканоміка пазбавіцца вуглевадароднай «іголкі», на якой сядзела больш за 20 гадоў. Расейская нафта для Беларусі будзе каштаваць столькі ж, колькі і для іншых краінаў.

**Беларусь зарабляе мільярды на экспарце нафтапрадуктаў**

Згодна з дакумэнтам, цягам 2019–2025 гадоў Расея паступова зьнізіць экспартнае мыта на сваю нафту зь цяперашніх 30% да нуля. Адначасова павялічыцца падатак на здабычу гэтай сыравіны. Увынiку, адзначаюць экспэрты, Беларусь ня зможа перапрадаваць расейскія вуглевадароды.

Нават пры цяперашніх ваганьнях нафтавых цэнаў Беларусь выйграе да 2,5 мільярда даляраў за год, закупляючы яе ў Расеі — гэта прыкладна 5% працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту.

З 24 мільёнаў тон расейскай нафты прыкладна 6 мільёнаў рээкспартуецца з нацэнкай у краіны Эўразьвязу. Большая частка з астатніх 18 мільёнаў тон пасьля перапрацоўкі ў Мазыры і Наваполацку таксама ідзе на замежны рынак. Усё гэта прыносіла значныя даходы. Але ад наступнага году нафтавыя субсыдыі пачнуць істотна «абразацца».

**"Радыё Свабода"**

КАРУПЦЫЯ

# ФІНТ ВУШАМІ

**Як у Міністэрстве аховы здароўя зьбіраюцца перамагчы карупцыю? Для барацьбы з карупцыяй патрэбен кантроль грамадзтва, а не стварэньне новых бюракратычных структур.**

11 верасьня Аляксандар Лукашэнка на нарадзе аб праблемных пытаньнях у сыстэме аховы здароўя чарговым разам узгадаў тэму карупцыі ў ведамстве. «Карупцыя здараецца ўсюды, але ў ахове здароўя праблема стала ня кропкавай, а скразной, сыстэмнай. Яна закранула не асобных службовых асоб, а закранула практычна ўсю вэртыкаль», — сказаў кіраўнік дзяржавы. І запытаў міністра аховы здароўя Валерыя Малашко: «Вы мне так вось шчыра скажыце — вы здольны кіраваць міністэрствам?»

Але, гледзячы па ўсім, пасьля скандальных затрыманьняў у чэрвені, у сыстэме аховы здароўя мала што памянялася. Пра гэта сьведчыць скандальная гісторыя з закупам не зарэгістраванай у Беларусі карэйскай вакцыны «Эўпэнта». Пасьля яе прымяненьня памерлі двое дзяцей. Два аўкцыёны дзеля закупу вакцыны чамусьці не адбыліся, у выніку міністэрства купіла прэпарат, прычым не зарэгістраваны ў Беларусі, бяз конкурсу ў адной карэйскай фірмы.

Адразу ж пасьля нарады міністар Малашко, камэнтуючы дзяржаўным тэлеканалам захады, якія зьбіраецца рабіць дзеля барацьбы з карупцыяй, заявіў: «Сёньня мы павінны ўводзіць сыстэму і ўнутранай бясьпекі. Гэта ня столькі міліцэйскія функцыі, так скажам, колькі ў першую чаргу дасьведчаныя эканамісты, якія будуць кантраляваць сярэдняўзважаныя цэны на тую тэхніку, якая набываецца, лекавыя прэпараты, кантраляваць парадак правядзеньня тых ці іншых працэдур».

Гэта проста клясыка бюракратычнага фінту вушамі. Што трэба рабіць, калі ўзьнікла нейкая праблема? Адказ бюракрата, як правіла, заўсёды аднолькавы: трэба стварыць камісію. У дадзеным выпадку плянуецца арганізаваць у ведамстве новую структуру, якая павінна змагацца з карупцыяй. А калі яна ня ўправіцца з гэтай задачай — то стварыць новую структуру, якая будзе сачыць за першай? Гэта на дадатак да КДБ і іншых шматлікіх праваахоўных і кантрольных органаў. У рамках існай сыстэмы чыноўнік па-іншаму мысьліць проста ня можа.

Між тым мэтады барацьбы з карупцыяй у сьвеце добра вядомыя. Зьвярнуў бы ўвагу толькі на такія рэчы, як празрыстасьць, галоснасьць у дзейнасьці дзяржаўных органаў, а таксама кантроль з боку грамадзтва з дапамогай незалежных мэдыяў.

Але вось якраз гэта для беларускіх ведамстваў, у прыватнасьці для Міністэрства аховы здароўя, абсалютна непрымальна. Узгадайма тую ж гісторыю з карэйскай вакцынай. Як толькі часопіс «Ежедневник» апублікаваў расьсьледаваньне аб прычынах сьмерці дзіцяці ў Ганцавіцкім раёне пасьля прышчэпкі, то Мінздароўя зьвярнулася ў пракуратуру з патрабаваньнем пакараць журналістаў. Маўляў, «фармат падачы і грубае выкладаньне фактаў у артыкулах, апублікаваных на адным з інтэрнэт-рэсурсаў і перадрукаваных іншымі СМІ, могуць нанесьці шкоду нацыянальнай бясьпецы Рэспублікі Беларусь у сфэры аховы здароўя». То бок ня дзеяньні сыстэмы аховы здароўя, у выніку якіх паміраюць дзеці, наносяць шкоду нацыянальнай бясьпецы краіны, а тое, што пра гэта пішуць СМІ! Фэнамэнальная лёгіка.

Праз два дні пасьля публікацыяў пра гэты скандал з карэйскай вакцынай высокія чыноўнікі Міністэрства аховы здароўя запрасілі журналістаў, каб выказаць сваю пазыцыю. На брыфінг сабралася вялікая колькасьць журналістаў, яны мелі шмат пытаньняў. Аднак чыноўнікі міністэрства зачыталі па чарзе свае заявы і ўцяклі, адмовіўшыся адказваць на пытаньні прадстаўнікоў мэдыяў. Мусіць, ёсьць што хаваць?

Вось якраз непадкантрольнасьць грамадзтву, адсутнасьць зваротнай сувязі з насельніцтвам, закрытасьць і непразрыстасьць, незразумелая сакрэтнасьць і ствараюць глебу для карупцыі. І ніякая новая бюракратычная структура ў рамках ведамства па барацьбе з карупцыяй праблему ня вырашыць.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ТАКАЯ АДУКАЦЫЯ

# В 10-М КЛАССЕ НУЖНЫ ШЕСТЬ УРОКОВ ТРУДА?

**В белорусские школы возвращается профессиональная подготовка. В учебный план 2018/2019 учебного года для учеников 10-х классов в школах, где все предметы изучаются на базовом уровне, введено трудовое обучение — шесть часов в неделю. Означает ли это возвращение советской системы УПК?**

**В профильных классах уроков труда не будет**

Трудовое обучение по шесть уроков в неделю будет введено только для десятиклассников базовых классов. Для 11-классников это планируется со следующего учебного года (2019/2020). В этом году в выпускных классах такого предмета не будет.

Речь об освоении некоторых профессий, это не будут классические уроки труда, на которых мальчиков учат делать табуретки, а девочек — шить юбки.

Как сообщила на пресс-конференции 27 августа заместитель начальника главного управления общего среднего, дошкольного и специального образования, начальник управления общего среднего образования Министерства образования Ирина Каржова, перечень профессий, по которым будет осуществляться обучение, определяется с учетом запросов учащихся и возможностей школы.

В комментарии для Naviny.by пресс-секретарь Минобразования Людмила Высоцкая подчеркнула, что речь о том, что шесть часов в неделю трудом будут заниматься все школьники, не идет.

«В каждой школе, — пояснила Высоцкая, — могут создаваться профильные классы, дети в которых изучают определенные предметы на повышенном уровне. В таких классах не будет предмета „трудовое обучение". Такой предмет будет в базовых классах, которых в целом по стране больше, чем профильных».

Чтобы попасть в профильный класс, средний балл успеваемости у ученика должен быть не менее «6», а оценка по профильному предмету «7» и выше.

Профильное обучение вернули в школы в 2013 году. Система такого обучения создавалась с 2006 года, но была практически ликвидирована в 2008-м в связи с переходом с 12-летнего на 11-летнее среднее образование (это решение критики называли «антиреформой образования»). Тогда были сокращены часы на углубленное и дополнительное изучение профильных предметов.

Теперь профили есть в каждой гимназии, а в лицеи (не путать с профессиональными, бывшими ПТУ) дети поступают сразу по профилям и сдают соответствующие экзамены.

Как правило, если в школе два десятых класса, то один из них — профильный, но есть школы, где профильных классов нет.

С 2015 года в некоторых школах появились и профессиональные профильные классы — педагогические, военно-патриотические, правовые, обучение в которых направлено на подготовку к получению конкретных специальностей.

В прошлом году, например, педагогические классы функционировали в 23 учреждениях образования, где обучались 240 учащихся. Из них только каждому пятому дали рекомендацию для поступления в профильный педагогический вуз, а поступили туда около 16% от общего количества выпускников педклассов, причем больше половины — из одной гимназии.

В Минске есть школы, где в этом году десятиклассникам предложили два варианта обучения — базовый или педагогический класс.

Мама мальчика, который оказался в базовом классе школы № 6 (второй вариант был как раз педагогический класс), рассказала, что детям дали большой выбор специальностей на трудовом обучении.

«В перечне — делопроизводитель, исполнитель художественно-оформительских работ, мастер по маникюру, медицинский регистратор, дизайнер ландшафта, оператор ПЭВМ, официант, парикмахер, визажист, повар, слесарь по ремонту автомобилей и рабочий зеленого строительства. Список, вроде, и большой, но есть ограничения по состоянию здоровья, а в группах количество мест ограничено», — сказал она.

На каждую профессию каждой школе отведено определенное количество мест — одинаковое вне зависимости от спроса. Профессиональной подготовке будет отдан весь учебный день в среду. В субботу в расписании — обычные школьные предметы.

«В нашей школе дети в прошлом году занимались трудовым обучением в виде профессиональной подготовки. Их ознакомили с несколькими профессиями. Не уверена, что в 10-м классе каждую неделю стоит терять целый школьный день, чтобы обучать детей специальностям, по которым не факт, что они будут работать», — сказала мама ученика.

**Как отличить козу от коровы**

Идея об увеличении количества часов трудового обучения, судя по всему, родилась не в кабинетах Минобразования. В августе 2017 года на Республиканском педсовете о недостатках системы говорил президент.

«Надо посмотреть, вернуться к тому, как это у нас было. У нас в школе мы работали на приусадебных участках. Мы обязаны были летом три недели или месяц проходить трудовое обучение, практику. Не везде это есть. Вот и доработались, что дети на селе не то что корову от быка — козу от коровы отличить не могут. Это же катастрофа», — возмущался Александр Лукашенко.

Вскоре после этого тогдашний заместитель премьер-министра Василий Жарко на совещании в Министерстве образования поставил задачу «повышать качество трудового обучения и воспитания в школе».

«Тех учебных часов в базовой школе, которые есть на сегодняшний день, явно недостаточно. Не говоря уже про 10-11-е классы, где эти часы на трудовое обучение вообще не предусмотрены. В Кодексе об образовании тоже не прописано трудовое обучение в старших классах. Этот вопрос надо продумать», — заявил Жарко.

Продумали так — если в школах нет возможности заниматься профобучением, оно будет проходить в учреждениях профессионально-технического или среднего специального образования, на базе вузов и учреждений дополнительного образования.

В Минобразования подчеркивают, что дети будут иметь выбор профессий. Это означает, что в учебно-производственных комбинатах и профессиональных лицеях прибавится работы, от чего, можно предположить, выиграют педагоги и мастера.

Но поможет ли введение трудового обучения для старшеклассников сориентировать их на продолжение образования в профессиональных лицеях, можно будет оценить лишь через год-другой. Пока же профлицеи испытывают хронические проблемы с набором учащихся, почти ежегодно объявляется дополнительный набор.

Например, в этом году в шести столичных лицеях был недобор на строительные специальности. Оставались места в колледже декоративно-прикладного искусства и в профессионально-техническом колледже строительства и коммунального хозяйства.

К слову, профессиональный лицей № 10 строительства план набора все же выполнил и станет в этом году базой для проведения уроков труда сразу для 25 школ Центрального и Московского районов….

**Елена Спасюк**
**"БЕЛАПАН"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 16.09.2018 у 18.35** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.